*Грамадскі рух*

# Не трэба расколу ў дзіцячых арганізацыях

(Заканчэнне. Пачатак на стар.1.)

Дык, урэшце, што заключанае ў гэтых паняццях — "палітыка" і "нацыяналізм"?

У выніку шматгадовай таталітарнай палітыкі ў нас развілося не адэкватнае сусветным узроўням разуменне гэтых паняццяў. Ва ўсім свеце лічацца святымі паняцці "родная мова", "нацыянальныя сімвалы і традыцыі". А ў нас? Да іх прыстаўленая абражальная шыльда "палітыка" і ўбітая ў галовы яшчэ "страшнейшае" слова "нацыяналізм". Ва ўсім прагрэсіўным чалавецтве мова карэннага насельніцтва знаходзіцца па-за палітыкай, а наданне перавагі мове суседняй дзяржавы супярэчыць нацыянальным інтарэсам і караецца законам.

Вяртаючыся да згаданай прэс-канферэнцыі, было ніякавата, калі ў "дзіцячых" лідэраў дапытваліся, ці з'яўляецца чыйсьці рух палітычным і нацыяналістычным. Ды ўсім у нейкай ступені гэтыя рысы ўласцівыя. Да прыкладу, піянерскую арганізацыю Беларусі, што ўзначальвае Марына Яжова, можна аднесці ці не да самай палітызаванай. Гэта было закладзенае ў праграму руху яе заснавальнікамі, якія вырашылі непалітычныя скаўцкія арганізацыі перавесці на камуністычныя рэйкі. "Нам многаму патрэбна вучыцца ў бойскаўтызму, але даць бойскаўтызму зусім іншыя, камуністычныя мэты", — пісала яшчэ Крупская. Не паглыбляючыся ў гісторыю і сучасную дзейнасць гэтай арганізацыі, ідэалагічную яе скіраванасць можна заўважыць хаця б па такіх вонкавых праявах , як колер гальштукаў. Дарэчы, беларускія скаўты (заходнебеларускія, эмігранцкія, АБСаўскія) заўсёды былі верныя нацыянальнаму сцягу. А вось гальштук можа быць розным. Нават у сяброў адной харугвы ці ў аднаго скаўта іх некалькі.

Шаноўныя дарослыя лідэры прасавецкіх дзіцячых арганізацый, вы сцвярджаеце, што не займаецеся "нацыяналізмам". Дапусцім. Амаль усе з вас заяўляюць, што спрыяюць вывучэнню гісторыі Беларусі, традыцый і г.д. Але... без карыстання беларускай мовай. Абсурднасць? Не зусім. Бо вывучаецца гэта на расійскай мове і дамінуе пункт гледжання на Беларусь гісторыкаў Расіі. А гэта ўжо палітыка, вынікі якой навідавоку.

Вельмі заўважалася на прэс-канферэнцыі, з якой падазронасцю была ўспрынятая дзейнасць гарадзенскіх харцэраў, у праграме якіх арыентацыя на польскасць. Але ж для нас, беларусаў "не па пашпарце", такія ж асацыяцыі выклікае і дзейнасць арганізацый, якія арыентуюцца не толькі на Польшчу, але і на Расію ці іншую краіну.

Што да "нацыяналізму", то гэты тэрмін сінанімічны "патрыятызму" і ў цывілізаваных краінах мае станоўчае значэнне.

Возьмем, дарэчы, кнігу англійскага прафесара сацыялогіі Сміта Энтані "Нацыяналізм у дваццатым стагоддзі" (Нью-Ёрк, 1982), выдадзеная ў 1995 годзе на беларускай мове і ёсць у некаторых нашых кнігарнях. Вядомы навуковец прыходзіць да высновы, што "нам, відаць, не давядзецца стаць сведкамі хуткага затухання нацыяналізму. Нягледзячы на масавую індустрыялізацыю і высокі ўзровень адукацыі. Фактычна мы прыйшлі да таго моманту, калі нацыяналізм стаў самапрадуктыўным феноменам, на які абапіраецца і будзе абапірацца сусветная супольнасць дзяржаў". Нехта не даверае Еўропе? То можа пацікавіцца сучаснымі даследаваннямі Расіі. "Сапраўдны нацыяналізм, — піша даследнік І.Ільін, — адкрывае чалавеку вочы і на своеасаблівасць іншых народаў... Звышнацыяналізм даступны толькі сапраўднаму нацыяналісту. Бо стварыць нешта прыгожае для ўсіх народаў можа толькі той, хто ўсталяваўся ў творчым лоне свайго народа" (И.Ильин "За национальную Россию") / (Слово. 1992. №5 — 7).

Здаецца, агульнавядома, як важна прывіваць дзецям пачуццё любові да Айчыны, патрыятызм. У нас ён спалучаны з беларускім культурным адраджэннем. Яшчэ два-тры гады таму назад адчувался хаця і павольна, але рост адраджэння беларускасці, у тым ліку і ў дзіцячых арганізацыях. Цяпер жа становішча пагоршылася так, што прыйшлося грамадскасці арганізоўваць Таварыства беларускай школы, як некалі ў Заходняй Беларусі, і пачынаць збор фактаў па дыскрымінацыі роднай мовы, разбурэнні беларускай школы. Гэтыя факты ўвойдуць у спецыяльную кнігу, каб засталіся ў гісторыі імёны новых герастратаўзнішчальнікаў і каб спыніць у будучыні самагубства нацыі. Таму цяпер ёсць над чым падумаць дзіцячым лідэрам і тым, хто займаецца навучаннем і выхаваннем, якую адказнасць яны бяруць на сябе.

Нашым нашчадкам будзе ў каго спытаць, чаму, напрыклад, самы буйны дзяржаўны дзіцячы лагер не стаіць на варце дзяржаўна-нацыянальнай мовы. Што рабіў кожны дзеля таго, каб дзеці з беларускамоўных школ, якіх болей 50-ці працэнтаў у рэспубліцы, атрымлівалі адпаведнае навучанне. І нельга тут спасылацца на двухмоўе. У нас насамрэч расійскае аднамоўе. Калі хто не верыць, то няхай хаця б уключыць беларускае тэлебачанне ці радыё, там будзе абавязкова выступаць нейкі начальнік на мове суседняй дзяржавы. Паўтару: усе цывілізаваныя краіны ствараюць умовы для прыярытэтнага ўжывання мовы карэннага насельніцтва і гэта ўспрымаецца як агульначалавечая норма. Адваротнае лічыцца праявай рабалепства, залежнасці і здрадніцтва. Вось чаму для Беларусі ўзнікаюць вялікія перашкоды пры ўступленні ў міжнародныя арганізацыі, якія грунтуюцца на агульначалавечых прынцыпах і каштоўнасцях.

З аднаго боку, дзіўнай выглядае заява кіраўніка Усебеларускага саюза скаўтаў І.Касцевіча аб перагглядзе некаторых праграмных палажэнняў сваёй арганізацыі ў перыяд падрыхтоўкі да ўступлення ў Сусветную арганізацыю скаўцкага руху (САСР), з другога — яго занепакоенасць зусім заканамерная, калі ведаеш палітыку УСС. Нам вядомыя даўнія захады і марныя намаганні ўэсэсаўцаў уступіць у прэстыжную міжнародную арганізацыю, але яна прад'яўляе да сваіх сяброў строгія патрабаванні, выкладзеныя ў яе Канстытуцыі і шэрагу іншых дакументаў. У нашай прысутнасці ў снежні 1991 года лідэры УСС шакіравалі прадстаўнікоў штаб-кватэры САСР (Жэнева), французскай асацыяцыі скаўтаў, каардынатара скаўцкага руху ў СНД А.Бондара заявамі тыпу "наша Родина — Россия". Але ж на гэты лік у скаўтаў ёсць фундаментальныя прынцыпы, якія дэкларуюць аб вернасці Бацькаўшчыне (у нас гэта Беларусь) у гармоніі з развіццём свету, узаемаразуменнем і супрацоўніцтвам на рэгіянальным, нацыянальным і міжнародным узроўнях.

Ключавой задачай з'яўляецца выхаванне любові да сваёй краіны, павага да яе гісторыі, мовы, нацыянальных традыцыяў і сімвалаў.

Ва ўсіх патрабаваннях САСР звяртаецца асаблівая ўвага на нацыянальны змест арганізацыі з развіццём у ёй інтэрнацыянальных пачуццяў. Слова "нацыянальнае" прысутнічае паўсюдна. Вось, напрыклад, існуе "Схема ацэнкі развіцця скаўцкіх асацыяцый", згодна якой па пяцібальнай сістэме вызначаецца ступень падрыхтаванасці да ўступлення ў САСР (павінен быць агульны сярэдні бал "4"). Некаторыя з патрабаванняў: "Прадстаўнічая Нацыянальная Асамблея (Сойм) зацвердзіла Статут, які адпавядае патрабаванням САСР, а таксама абрала Нацыянальную Раду (4 балы); "Створана маладзёжная праграма і яна адпавядае рэальным інтарэсам моладзі краіны. Яна адаптаваная да розных узростаў і абнародаваная на нацыянальнай мове" (5 балаў).

Звярніце ўвагу на словы "на нацыянальнай мове". Каб нават атрымаць два балы, дык і то патрэбнае друкаванне базавых элементаў праграмы "на нацыянальнай мове". Вядзенне справаводства (камунікацыі і публікацыі) на ёй таксама прадугледжана, каб атрымаць бал не ніжэй "двойкі". Якую ж можна атрымаць адзнаку за нагул адмоўнае стаўленне да беларускай мовы і абвінавачванне братоў па скаўтынгу ў нацдэмаўшчыне і г.д.?

Усёпераадольнае імкненне УСС да афіцыйнага прызнання міжнародным супольніцтвам не спыніла яго нават перад маральнай адказнасцю за самапрызначэнне найменне "усебеларускі" (раней быў "Союз скаутов Белоруссии"). Паводле дакументаў САСР, ад Беларусі будзе зарэгістраваная адна нацыянальная асацыяцыя, якая будзе ўключаць іншыя скаўцкія арганізацыі. А на сённяшні дзень маюцца УСС, АБС, Гарадзенская харугва скаўтаў імя Д.Гарадзенскага, Гомельская асацыяцыя адкрытага скаўтынгу і, магчыма, Круг старэйшых скаўтаў "Браты і сёстры Крывіцкага вогнішча".

Хачу, каб гэтыя нататкі, у якіх усё выказанае мною шчыра, не былі ўспрынятыя, як выклік на канфрантацыю. Наадварот, усім нам трэба нарэшце паразумецца, каб дружна працаваць на карысць нашай Бацькаўшчыны, у выхаванні сапраўдных яе патрыётаў.

**Крымінал-дайджэст**

## Сірыйца падсцераглі ў пад'ездзе

У адну з менскіх гарадскіх бальніц быў дастаўлены грамадзянін Сірыі, студэнт тэхналагічнага універсітэта. Высветлілася, што на замежнага студэнта напалі грабежнікі прама ў цэнтры горада, у пад'ездзе дома на праспекце Ф. Скарыны. У выніку студэнт быў жорстка збіты і абрабаваны на значную суму грошай.

## Савецкія ордэны па-ранейшаму ў цане

Упраўленнем крымінальнага вышуку гарадскога аддзела міліцыі Менска сумесна з супрацоўнікамі аддзелаў крымінальнага вышуку міліцыі Першамайскага і Савецкага раёнаў затрыманы раней неаднаразова асуджаны ўраджэнец г. Масты Гарадзенскай вобласці. Устаноўлена, што на працягу апошніх гадоў ён зрабіў некалькі крадзяжоў у грамадзян высокіх урадавых узнагарод у розных гарадах Беларусі. Пры знаёмстве з ахвярамі называўся Уладзімірам Яўгенавічам, супрацоўнікам рэспубліканскага савета ветэранаў, і прасіў паказаць узнагароды, якія фатаграфаваў. Але ў часе гутарак аферыст падмяняў залатыя зоркі Герояў Савецкага Саюза і Сацпрацы, ордэны Леніна, Суворава, Кутузава на муляжы. Следства толькі пачалося, не выключана, што некаторыя пацярпелыя да гэтага часу не ведаюць, што пасля візіту ветлівага сталічнага "супрацоўніка савета ветэранаў" у іхніх шуфлядах замест высокіх знакаў узнагарод ляжаць толькі муляжы. Таму міліцыя заклікае тых, хто прымаў такога "госця", уважліва пагледзець свае рэліквіі, а ў выпадку чаго патэлефанаваць па нумары 220-55-53 ва Упраўленне крымінальнага вышуку гарадскога аддзела ўнутраных справаў Менска.

## Наркаманія шырыцца. Лідзіруе Гомельшчына

Упраўленне Міністэрства ўнутраных спраў па незаконным абароце наркотыкаў арганізавала "круглы стол", дзе абмяркоўваліся праблемы наркаманіі, якая разам з п'янствам усё больш захлістае Беларусь. За апошнія 10 гадоў, паведаміў для журналістаў начальнік Упраўлення МУС Беларусі палкоўнік міліцыі Анатоль Бурый, колькасць злачынстваў, звязаных з наркотыкамі, павялічылася больш чымся ў 12 разоў, а памер канфіскаванага "зелля" вырас у 23 разы. На 32,8 працэнта павялічылася нарказлачыннасць у 1996 годзе ў параўнанні з папярэднім. Але наркабізнес пакуль яшчэ стрымліваецца... неспрыяльная эканамічная сітуацыя ў Беларусі. Калі краіна пабагацее, стрымліваць распаўсюджванне наркаманіі, калі не зменіцца сацыяльна-маральная атмасфера, будзе яшчэ цяжэй. Цяпер жа Беларусь актыўна выкарыстоўваецца з-за "празрыстасці" межаў з Расіяй для транзітнай правозкі наркотыкаў.

Намеснік галоўнага ўрача менскага гарадскога наркадыспансэра паведаміў, што трэба як хутчэй прымаць надзейныя законы па наркасправах, у тым ліку аб прыцягненні да адказнасці саміх наркаманаў. Паміж тым, адзначыў урач, наркаманія небяспечная не толькі тым, што ўскладняе крымінагенную сітуацыю ці псіхічна і фізічна разбурае чалавека, знішчаючы яго максімум за 12 гадоў, гэта яшчэ і самы кароткі шлях да распаўсюджвання СНІДу. Што гэта так, яскрава сведчыць жудасны вопыт Светлагорска, дзе менавіта ў асяродку наркаманаў імкліва стала пашырацца колькасць ВІЧ-інфікаваных.

Дарэчы, 40 працэнтаў усіх злачынстваў, звязаных з наркотыкамі на тэрыторыі Беларусі, рэгіструецца ў Гомельскай вобласці, а з іх кожнае другое — у Светлагорску і яго наваколлі.

Падрыхтаваў У. ВЕРАБЕЙЧЫК.

*Чыталі?*

# СУСТРЭЧА З СУСЕДЗЯМІ — АМАЛЬ ПРАЗ СТАГОДДЗЕ




Нягледзячы на тое, што выданні "Школьнай бібліятэкі", якія выпускае выдавецтва "Юнацтва", не паступаюць у кнігагандаль, нам удалося раздабыць кніжку гэтай серыі, са зместам якой варта пазнаёміць чытачоў. Гаворка пойдзе пра творы слынных майстроў слова нашых бліжэйшых суседзяў, украінцаў, сабраныя пад адной вокладкай і адрасаваныя беларускім школьнікам сярэдняга і старэйшага ўзросту, — Міхайлы Кацюбінскага і Лесі Украінкі. У кніжку ўвайшлі рамантычная аповесць "Цені забытых продкаў" і апавяданні Кацюбінскага, драма-феерыя Лесі Украінкі "Лясная песня" (пераклад Вячаслава Рагойшы і Тацяны Кабржыцкай) і вялікая падборка яе вершаў у перакладзе лепшых майстроў мастацкага слова Беларусі (Ю.Гаўрук, С.Дзяргай, М.Аўрамчык, Н.Гілевіч і інш.). Сабрала кнігу (уклала) ўраджэнка Украіны кандыдат філалагічных навук Т.Кабржыцкая. Да слова, яна пераклала на ўкраінскую мову творы М.Багдановіча, У.Караткевіча, В.Быкава і іншых беларускіх пісьменнікаў.

Маладому пакаленню беларусаў будзе цікава і карысна паўней пазнаёміцца з творчасцю непаўторных украінскіх пісьменнікаў-наватараў з філасофскім асэнсаваннем рэчаіснасці, апантанымі пошукамі справядлівасці, гарманічнага яднання чалавека з прыродай.

На жаль, кароткае было жыццё ў абодвух украінскіх класікаў: М.Кацюбінскі нарадзіўся ў 1864 годзе, Леся Украінка — у 1871-м, абое ж памерлі ў 1913-м ад невылечнай на той час хваробы — сухотаў (прыгадаем нашага М.Багдановіча).

На 4-й старонцы вокладкі кнігі прыводзяцца словы Максіма Горкага пра М.Кацюбінскага: "Яго ўкраінскае палымянае сэрца было на Бацькаўшчыне — яе бедамі ён жыў, яе мукамі мучыўся... Чалавечнасць, хараство, народ, Украіна — гэта любімыя тэмы развоў Кацюбінскага, яны заўсёды былі з ім, як яго сэрца, мозг і слаўныя ласкавыя вочы". Пра Лесю Украінку тут прыводзіцца выказванне ўкраінскага класіка, Івана Франко:

"Ад часу Шаўчэнкавых "Пахавайце да ўставайце, кайданы парвіце" Украіна не чула такога моцнага, гарачага ды паэтычнага слова, як у гэтай слабасільнай, хворай дзяўчыны..."

З пасляслоўя да кнігі Т.Кабржыцкай пад назовам "У зачараваным царстве слова" даведваемся, што Леся Украінка тройчы прыязджала ў Менск дзеля свайго сябра Мяржынскага. "Тут каля ложка хворага сябра С.Мяржынскага яна правяла апошнія два месяцы яго жыцця. Як згадвалі сябры, "пакутуючы сама, яна пайшла насустрач чужым пакутам, адкінуўшы асабістае, і сваім мяккім, асцярожным стаўленнем яна сагрэла самотнае жыццё і апошнія дні чалавека выключнай духоўнай тонкасці".

Амаль праз стагоддзе пасля першага знаёмства беларусаў са славутымі ўкраінскімі мастакамі прыгожага пісьменства, заканчвае свой артыкул Т.Кабржыцкая, адбываецца новая сустрэча Міхайлы Кацюбінскага і Лесі Украінкі з беларускімі чытачамі. Сустрэча доўгачаканая, жаданая і, будзем спадзявацца, радасная.

Будзем спадзявацца, што настаўнікі, выкладчыкі роднай літаратуры данясуць сваім выхаванцам усё хараство, глыбіню думак і пачуццяў, увасобленых у творах выдатных украінскіх пісьменнікаў.

Уладзімір АНІСКОВІЧ.

Згадкі

*Мікола УЛАШЧЫК*

# КАЛІ Я ПАЧЫНАЎ ЗАЖЫНКІ

*Некалі, у часе працы над вялікім біяграфічным нарысам пра выдатнага беларускага гісторыка Мікалая Мікалаевіча Улашчыка, мне пашчасціла з ім пастаянна сустракацца і гутарыць. А на некаторыя свае пытанні я ў дадатак атрымліваў з Масквы яшчэ і даволі падрабязныя пісьмовыя адказы. Акрамя працы вучонага над гістарычнымі першакрыніцамі, мяне вельмі цікавіла сям'я, у якой выхаваўся гэты надзіва добрасумленны, акуратны і працавіты чалавек. Так і сталася, што мы не аднойчы гутарылі пра традыцыйнае выхаванне дзяцей у моцных беларускіх сялянскіх сем'ях на пачатку XX стагоддзя, на якіх шмат у чым трымалася не толькі эканоміка тагачаснай вёскі, але і яе культура паўсядзённага побыту. Як вядома, пасля бальшавіцкага перавароту ў часы стварэння калгасаў была разрабаваная і гаспадарка вялікай сям'і Улашчыкаў. Многае з дасланага мне Мікалаем Мікалаевічам я перадаў у Дзяржаўны музей беларускай літаратуры, але нядаўна, праглядаючы адну з папак свайго невялічкага архіва, знайшоў яшчэ некалькі старонак, дасланых мне выдатным гісторыкам. Мяркую, яны будуць цікавыя шаноўным чытачам. Загаловак рэдакцыйны.*

***Эрнэст Ялугін.***

Калі надыходзілі доўгія восеньскія вечары, бацька перацягваў свой сталярскі варштат у хату. Разам з варштатам пераносіў і ўсё патрэбнае ў сталярскай дзейнасці начынне: гэблі, рубанак, свярдзёлкі, долаты, сякеру. Хаця бацька ніколі не казаў, што мы не павінны ні ў якім разе карыстацца яго інструментамі, але мы ўсе гэта ведалі і, хіба калі былі зусім пэўныя, што ніхто не бачыць, бралі і спрабавалі што-небудзь імі рабіць.

Бацька быў майстрам на ўсе рукі: ён рабіў бочкі, цэбры, вёдры, даёнкі, начоўкі, карыты, тачыў верацёны, выразаў лыжкі, рэпараваў конскую збрую, “спускаў” вужышча, віў пастронкі, латаў усім абутак. Нам, малым, усяго больш цікавым было глядзець, калі бацька майстраваў што-небудзь гэблікам ці пілою, асабліва калі рабіў цэбры ці бочкі. Тады ў хаце так хораша пахла смалой ад сухіх сасновых клёпак, скрозь валяліся кавалачкі дрэва і габлюшкі, з якімі можна было гуляць. Час ад часу бацька заклікаў мяне ў дапамогу. Нарабіўшы клёпак, ён клаў на падлогу два абручы і казаў садзіцца ў сярэдзіну іх. Калі рабіўся вялікі цэбар ці бочка, ён клаў каля мяне яшчэ скручаны кажух. Разам з кажухом я павінен быў падтрымліваць клёпкі, каб яны стаялі адна каля другой і не звальваліся ў кучу. Калі абручы набіваліся, то бацька сцвярджаў, што гэта ўсё мы зрабілі ўдвух. Зразумела, я і сам хваліўся, што памагаў бацьку. Мне ў той час было гады тры-чатыры. Сталым маім абавязкам лічылася збіранне яек. Калі рабілася холадна, курэй заганялі ў падпечак, адкуль іх выпускалі раз ці два ў дзень пакарміць і напаіць. Куры часам несліся, і трэба было лазіць у падпечак і забіраць яйкі. Дарослым лезці ў цемру ды яшчэ забруджаную, не хацелася, а для мяне гэта была нейкая прыгода. Узяўшы газоўку (маленькую лямпачку ці проста бутэлечку з кнотам), якая сяк-так свяціла, лез у чорную пашчу падпечка, прычым рабілася нават страшнавата — а раптам там у кутку сядзіць якая-небудзь здань, а яшчэ горш — пацук!

Але куры не толькі неслі яйкі, яны часам (уласна не куры, а певень) давалі спектаклі. Гэта было толькі ў нядзелю, калі дарослыя ішлі ў царкву. Тады мы, малыя, знімалі са сцяны люстэрка (яно было нейкае цьмянае, але сябе-такі можна было бачыць), ставілі яго на падлогу ў кухні і выпускалі курэй. Певень, убачыўшы ў люстэрку другога, кідаўся да яго біцца. Ён наскокваў на люстэрка, дзюбаў яго, біў крыламі і нагамі, праціўнік рабіў тое самае, а мы толькі не качаліся з рогату. З вакна на кухні відаць была царква і, калі людзі пачыналі разыходзіцца адтуль, мы забіралі люстэрка і заганялі курэй ў падпечак.

Гадоў з пяці абавязкаў стала больш, і яны зрабіліся сталымі. Ці не першым такім абавязкам было ваксаванне абутку ўсяе сям'і. Рабілася гэта не часта: перад Калядамі, перад Вялікаднем, перад Сёмухаю і перад Янам (на Яна ў нас быў фэст). З найбольшым шыкам наваксаваць трэба было перад Вялікаднем, бо гэта было найбольшае свята за ўвесь год.

Усе святочныя боты і чаравікі знаходзіліся пад бацькавым ложкам. Я залазіў туды, выцягваў усё, што знаходзіў, разбіраў па парах і ставіў чарадою каля печы. Самым цяжкім было вычысціць боты бацькі і братоў, самым лёгкім — невялікія чаравікі сясцёр. З шыкам наглянцаваныя боты ці чаравікі павінны былі быць такімі, каб, гледзячы на іх, казалі: “Бот зззяе, ззяе ды аж блісне”.

Ведама, пачынаючы чысціць, ужо ўяўляў сабе, які алігантні выгляд будзе мець усё, што я зраблю, але, паглянцаваўшы адзін бот і бачачы, як многа яшчэ заставалася зрабіць, вясёлыя думкі зніклі: калі ж тут зрабіць усё? Аднак у доме не было такога звычаю, каб табе даручылі нейкую работу, а ты б збег, не зрабіўшы яе. Правіла, што даручанае выконваецца заўсёды, мы ведалі з малых дзён, і таму, хаця на дварэ было куды цікавей, трэба было сядзець і чысціць.

Перад Вялікаднем, Сёмухаю і Янам праводзілася і яшчэ некалькі вялікіх мерапрыемстваў: належала прыбраць хату, гэта значыцца пабяліць столь і печ, вымыць падлогу, вытрасці сеннікі і напхаць іх свежаю саломаю і г.д. Усё гэта рабіла мама з кім-небудзь дарослым, а нам, малым (мне і сёстрам), даручалі падмесці двор.

Двор быў вялізны, за зіму на ім набіралася даволі ўсякага смецця — шматкі гнілой саломы ці сена, сляды, што пакінула скаціна, кійкі, трэскі, пілавіння. Ведаючы, што трэба будзе рабіць на Вялікдзень, у нас кідалі ў які-небудзь кут дзяркачы; новымі венікамі, хаця іх увосень рабілі даволі, карыстацца не дазвалялі: як і скрозь, эканомілі і тут.

Аднаму падмесці двор было нельга, і мы выходзілі заўсёды утраіх: я (мне было гадоў 5 — 6) і дзве сястры, старэйшыя за мяне на пяць і шэсць гадоў. Як звычайна, у гэтай калектыўнай дзейнасці камандавала Саша, бо яна была не толькі старэйшая за нас, але і самая дамавітая і рабіць абы-як не дазваляла. Саша ў гэтай рабоце ішла першай, за ёю Ніна, а я ў канцы. Пачаўшы ад хаты, каля якой зямля была ўтаптана і мялося таму лёгка, мы з цяжкім пачуццём глядзелі на канец двара, разумеючы, якую процьму працы нам належыць зрабіць. Але пры Сашы надта не будзеш нудзіцца, што работы многа. Пайшлі!

Дарослы чалавек прыбраць двор мог, пэўна, за дзень, а мы трое корпаліся перад Вялікаднем тры дні. Але каб прыбіраў двор дарослы, а мы б круціліся каля яго, то такое ў нас лічылася распустай. Затое мы самі, скончыўшы працу і бачачы, які чысты стаў двор, якая на ім расце харошая маладая зялёная трава, былі надта задаволеныя.

Вясна пасля Вялікадня праходзіць надта імкліва, і вось надыходзіць сенакос (касіць пачыналі пасля Яна ці за дзень — два да свята). Косяць дарослыя, а мы, калі падсыхала раса, ішлі разбіваць пракосы ці раскідаць копы, калі пакоша была ўчора. Касцы, паскідаўшы верхняе, махаюць косамі ў кашулях, жанчыны выходзяць на сенакос прыбраныя: нейкае ўсеагульнае свята.

Калі надвор'е добрае, то праз дзень — два сена высыхае, і яго трэба звозіць у гумно. Складаць у торп павінны мы ўтрох, камандуе і тут Саша. Застаронак, куды будзем складаць сена, прыбраны і на ім паслана свежая салома. Сядзім у гумне і чакаем. Вось чутна рыпіць воз, гарачая гнядая кабыла, якую кусаюць мухі і сляпні, нервова б'е капытамі. Тут сцеражыся. Мы ў застаронку. Паказваецца гнядая, за ёю воз сена, які ледзьве ўлазіць у шырокія вароты. Каля воза — абсыпаны сенам, спацелы брат Паўлік. Ён развязвае воз, скідае рубель, падцялежвае драбіны, і сена валіцца ў застаронак. Скідаўшы рэшткі сена, Паўлік адварочвае драбіны, скручвае вужышча, кладзе рубель і едзе па другі воз, а мы кідаемся прыбіраць сена. Яго трэба адкідаць як мага далей да сцяны і ўтаптаць, каб можна было пераку́ліць і яшчэ адзін воз. Сена гарачае і пахучае. Я, як малы, пачынаю куляцца ў сене, але для Сашы гэта не гульня, а работа, і яна прымушае перакідваць і таптаць. Саша ўмее выкладаць край торпа, каб ён быў роўны, каб не вылазіў уперад за сохі, бо ў такім разе торп абваліцца.

Летам у нас у дажджлівыя дні перабівалі ток. У таку сям-там былі невялікія ямкі, і яны нікому не перашкаджалі: але наш бацька такі, што ўвесь час шукае сабе і нам работы. Зараз ён рыхтуе начынне, якое патрэбна, каб перабіць ток. Перш за ўсё гэта драўляныя малаткі. Ад сухой елкі таўшчынёй у 12 — 15 см адпілоўваюцца кавалкі даўжынёй см у 30 — 35. Адзін канец гэтага кавалка завастраецца, другі, тупы, загладжваецца. У сярэдзіне тоўстым свярдзёлкам свідруецца дзірка — туды ўстаўляецца тронак з арэшыны ці тонкай яліны. Дарослыя ломам ламаюць увесь ток; кавалкі току цвёрдыя, як бетон. Іх трэба пабіць на дробныя кавалачкі, пасля перагрэбці граблямі, затым дамяшаць свежай гліны і ўрэшце згладзіць і ўбіць так, каб было роўна. Апошняе, самае дасканалае раўнанне, робіцца пранікамі. Калі што-небудзь робяць дарослыя, то малыя круцяцца каля іх і кожнаму хочацца зрабіць тое самае, што робяць дарослыя. Але сіл мала, лом нават падняць цяжка, а біць ток — дзе ўжо там, але разбіваць кавалкі можна і слабым. Пачынаю біць. У гэты час у гумно, дзе застаўся адзін, уваходзяць бацька і мама. Убачыўшы іх, пачынаю біць з усяе сілы і раблю выгляд, што бацькоў не бачу, а яны глядзяць на мяне. “Дужы будзе”, — кажа паціху мама. Я чую гэта і пачынаю стукаць яшчэ мацней. Дужы, а буду яшчэ дужэйшы! Некалі бацька казаў: “З'еш вот столькі і тады будзеш надта дужы: паваліш мой бот”. Гэта было даўно, калі быў малы, а зараз мне ўжо шосты год. Я езджу на кані і паганяю коні ў малатарні. Калі трэба было ехаць па сена ў Бравaрышча, і нас было трое, то кіраваць канём даручылі мне — хлопец жа, мужчына.

За сенакосам ідзе жніво. Мы сочым дзень, калі мама пойдзе зажынаць, бо без нас нібы і зажынкі будуць не сапраўдныя. Урэшце мама бярэ серп, і мы ўсім гуртам бяжым за ёю. Першы сноп нажынаецца невялікі, і звычайна мне, як самаму малому, дазваляюць несці яго і паставіць у хаце на покуце. Праз дзень-два жыта жнуць усе, хто можа, а яшчэ цераз некалькі дзён яго сухое пачынаюць вазіць у гумно. Укладаць снапы ў торп зноў прызначаемся мы трое. Калі воз прывозіць Паўлік, то ён кідае снапы не спяшаючыся, і мы лёгка ўкладваем іх на месца (тут, як і на сене, існуе пэўны парадак, і трэба ўмець выкласці торп, каб ён не шуснуў на ток). Першым у торп кладзецца той маленькі снопік, які стаяў на покуце, за ім іншыя. Калі снапы прывозіць бацька, то тут трымайся. Як і на ўсякай другой рабоце, ён і снапы з воза кідае з азартам. Высокія, тоўстыя, гарачыя снапы ляцелі адзін за адным, і добра калі цябе бывала хвасяне каласамі, але часам трапляе тоўстым канцом проста ў твар. Тут толькі сцеражыся, каб не трапіла чаго ў вока. Выкладае край торпа Саша, а калі часам спрабуеш пакласці сам (сноп, калі мне было 5-6 гадоў, быў большы за мяне), то Саша папраўляе: усё трэба ўмець рабіць надзейна.

Куды больш лягчэйшая і прыемная работа была, калі абівалі лён. Вось бацька прывёз лёну і склаў яго ў гумне. Ужо восень, сонца ўсходзіць у нейкім тумане. Ціха-ціха. Ужо і дарослым дазваляецца ўставаць не ў чатыры раніцы, як гэта было нядаўна, а ў пяць. Калі сонца падымаецца так, што добра грэе, снапы выносяцца і ставяцца перад гумном, каб сохлі. Абіваць ідуць дзяўчаты, з імі і я. Сноп кладзецца на ток, і па яго галоўках б'юць пранікам, выбіваючы зерне. Затым абабітыя снапы вязуць на пакошу, дзе і расцілаюць. Абіваць лёгка ды яшчэ хто-небудзь са старэйшых пачынае расказваць пра смешную падзею. Саша выступае са сваім найлепшым камічным нумарам — пра Іваніху; усе аж кладуцца ад рогату. Мяне пасылаюць у сад па яблыкі. Зараз іх многа валяецца на зямлі. У дадатак да добрай работы яшчэ і яблыкі — іх колькі хочаш.

Зусім нядаўна я быў “малое”, зараз з мяне гэта спадае, бо ў хаце з'явілася сапраўды малое — сястра. Яна ляжыць у калысцы, прывязанай вяроўкамі да столі каля мамінага ложка. Яна зусім малая і толькі час ад часу крычыць, тады мама ідзе да яе і пачынае карміць. Малое суцішаецца. За ёю належыць даглядаць старэйшым сёстрам.

З сёстрамі адносіны розныя. Часам гуляем, асабліва ў зімовыя вечары ў хаце, часам, седзячы на печы, перадаём адзін другому навіны, часам сварымся і б'ёмся, часам сёстры загадваюць мне зрабіць тое, што павінны былі зрабіць самі, што выклікае мае пратэсты. Але такі ж у кучы, у грамадзе.

Увосень сёстры едуць вучыцца ў Прылукі. Там школа для дзяўчынак з трыма класамі навучання. Сёстры вучыліся раней дома і едуць адразу ў трэці, выпускны клас. Ехаць у Прылукі дзяўчынкам не хочацца. Найперш, гэта азначае застацца без мамы, настаўнік ці настаўніца чужыя і, можа, будуць ставіць на калені ці даваць “лапу” (біць па далоні лінейкай). Бліноў, да якіх так прызвычаіліся мы ўсе, там не будзе. Адно шчасце, што кожную суботу іх будзе забіраць дахаты Паўлік. Ідуць зборы. У павозку кладуць торбу з ежаю. Там хлеб, трохі сала, круп, трохі картоплі, жменя солі і яшчэ нешта. Сёстры паціху плачуць, выцірае вочы і мама.

Я часам не ладзіў з сёстрамі, але калі яны паехалі, то адразу стала надта суцішна і сумна. Адзін. Малое ляжыць у калысцы і з ім не пагуляеш. Мама ўвесь час займаецца сваімі справамі. Каровы і авечкі ў полі, куры недзе капошкаюцца, і нават певень, які вясной часта ўскокваў на плот і адтуль так голасна крычаў сваё “кукарэку”, зараз суцішыўся.

Іду да мамы і прашу, каб даручыла што-небудзь зрабіць. Мама кажа: трэба нанасіць мякіны каровам. Ад мякінніка да хлява будзе метраў са сто ці больш, цэбраў у хляве некалькі, значыцца, работы будзе даволі.

Іду ў мякіннік, набіраю поўны кошык і нясу ў хлеў. Гэтай работы хапіла да самага вечара. Калі мама прыйшла ў хлеў і зірнула ў цэбры, то здзівілася: насыпаў ва ўсе! Чую, як мама кажа некаму, што вось колькі я нарабіў. Мяне, ведама, гэта радуе: я ўжо работнік. А тут бягуць авечкі, іх трэба загнаць у хлеў, ідуць каровы, і мама садзіцца даіць.

Назаўтра я ведаю, што патрэбна, каб не было сумна: трэба нешта рабіць. Ізноў пытаю ў мамы, што рабіць, і яна кажа — ідзі секчы капусту.

Надыходзіць зіма. Тры разы ў дзень трэба накарміць скаціну. Сена, канюшыну, трушанку з гумна ў хляве носяць рэзгінамі. Невялікі Петрык накладае на рэзгіны столькі, што калі ідзе праз двор, то здаецца, што капа ідзе сама па сабе, бо Петрыка не відаць. Я бягу адчыняць дзверы ў хляве, сам падняць рэзгіны пакуль не маю сілы.

У гэту зіму ў мяне вызначылася спецыяльнасць: я паганяю коней у малатарні. У мяне аднак няма зімовага адзення і абутку. Самае складанае з ботамі. Трэба прыстасавацца так, каб яны не звальваліся з ног і без вяровачак. Кажух мне даюць самы маленькі, падпярэзваюць вяроўкаю і полы засоўваюць пад вяроўку. Шапку далі старэйшага брата. Яна наязджае мне на самы нос, і я часам не бачу сцежкі ў манеж. У абед нават смяюцца, што я, збіўшыся са сцежкі, залез каля свірна ў гурбу снегу. Крыўдна. Манеж у нас закрыты з усіх бакоў, там зацішна. Коні ў дышле ходзяць па кругу. Можна нават сесці на дышаль і ездзіць, але гэта рызыкоўна, бо часам, калі махнеш дубцом на гнядую кабылу, то яна дае задам. Бацька з-за сцяны, калі трэба кратацца, а затым спыніцца, крычыць. Коні разумеюць гэта, можа, лепш за мяне.

У канцы дня ці ўвечары, ужо з ліхтаром, намалочанае архуюць. Мой абавязак — сядзець каля архі ў тым месцы, дзе сыплецца чыстае зерне, і адграбаць яго. У людзей адграбае звычайна той, хто засыпае нявеянае ў арху, і гэта зусім няцяжка, а наш бацька заўсёды лічыць, што ўсе, хто ёсць у хаце, павінны што-небудзь рабіць. Таму сяджу пад архаю.

У наступным годзе я ўжо значна большы і дужэйшы. Мне ніхто не скажа “павалі бот”. Я ўжо добра (так мне здаецца самому) езджу на кані, і калі блізка няма плоту ці хаця б высокай мяжы, то скідаю павады на спіну каню, стаўлю на іх нагу і, чапляючыся за грыву, саджуся на спіну. На пашы Зьмітра нават сплёў мне бізун у чатыры столкі, і я магу гучна ляскаць, умею выкладаць торп, залажу на самую высокую вішню. Умею нават і чытаць. Сястра Саша, якая ўжо скончыла сваё навучанне ў Прылуках, прызначана маёю настаўніцаю. Яна адчувае сваю моц і адказнасць, а я не магу лічыць яе сапраўднай настаўніцай, і паміж намі ўзнікаюць спрэчкі. Але тут аднекуль з'яўляецца мама, выцягвае з веніка розгу, і мы суцішаемся. А скора і ў школу ў Самахвалавічы. Там, кажуць, не пакрыўдзішся. Там настаўнік і на калені ставіць, і за валасы тузае, а за большы крымінал б'е “па мордзе”. Так што рыхтуй сябе да выпрабаванняў.

**Падрыхтоўка і публікацыя Эрнэста ЯЛУГІНА.**




*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
**Францішак Багушэвіч.**

*Беларускае адраджэнне*

*Алена ЯСКЕВІЧ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Балады Яна Чачота

З паэтаў-філаматаў, якія ўсвядомілі неабходнасць стварэння літаратуры на роднай мове, найбольшага поспеху ў распрацоўцы балады дасягнуў Ян Чачот. Гэта быў адзін з самых плённых беларускіх паэтаў нашай літаратуры першай паловы XIX стагоддзя, творчасць якога па папулярнасці супернічала з творчасцю яго сябра А. Міцкевіча на тэрыторыі тагачаснай Беларусі.

А. Міцкевіч і Я. Чачот выпрацоўвалі розныя тыпы ўзаемадзеяння з вуснай паэзіяй.

На думку Мархеля, засваенне беларускага фальклору ў Міцкевіча шматстайнае. Яго літаратурнай практыцы ўласцівыя складаныя і надзвычай тонкія ўзаемаадносіны вусна-паэтычнай і "кніжнай" стыхій на ўсіх, бадай, творчых узроўнях. "У Чачота ж мастацкае асваенне фальклорнага набытку было менш рухомае, дамінуючай формай доўгі час для яго заставалася апрацоўка беларускага меласу. Чачотаўскае стаўленне да вусна-паэтычнай творчасці мела пэўную зададзенасць, выяўляла сувязь з асветніцкім рацыяналізмам. Можа, якраз таму спачатку Чачот і не прыняў наватарскіх пачынанняў Міцкевіча"*.

З цягам часу яго пачалі цікавіць песні як крыніцы, дзе можна было адшукаць гістарычнае паданне, убачыць характар, звычаі і пачуцці старонкі, дзе іх спяваюць, паглыбіцца ў народны побыт, вераванні, мараль, этыку.

Усяго ў Чачота сем балад: "Бекеш", "Наваградскі замак", "Свіцязь", "Падземны звон на горцы ў Пазяневічах", "Узногі", "Калдычэўскі шчупак", "Радзівіл, альбо Заснаванне Вільні", і ўсе яны на польскай мове. Для кожнай з балад аўтар выпрацоўвае сваю страфу і свой памер.

Хочацца перш за ўсё адзначыць змястоўную багацце Чачотаўскіх балад — патрыятычныя, гістарычныя матывы, зусім у згодзе з баладным жанрам, спалучаныя з высокай лірыкай любоўнага пачуцця, зямнога і высокага, якое ў рамантыка Чачота мацней за смерць.

*Упаў перад ёй і халодныя губы*
*Каханай цалуе ў адчаі.*
*Ды толькі яна не прашэпча*
*ўжо: "Любы"...*
*О, хто яго гэтак карае?*

Як хораша і тонка спалучае паэт у баладным радку дзякуючы закону "адзінства і цеснаты раду" планы інтымныя з патрыятычнымі, эпас з лірыкай, яскравая адзнака таго, што нацыянальная балада шукала і ўжо знаходзіла свае жанравыя берагі:

*Ах, ганьба таму, хто пачуццям*
*адданы,*
*Свой край на дзяўчыну мяняе,*
*Каханкаю першаю нашай —*
*айчына,*
*Ёй служым, яе мы шануем.*

Дзве балады Чачота "Падземны звон на горцы ў Пазяневічах" і "Узногі" — першыя ластаўкі рэалістычнай балады сацыяльнага зместу.

Калі ў першай баладзе пераважае яшчэ міфалагічна-хрысціянская афарбоўка з пэўнымі элементамі дыдактызму:

*Так, божыя слугі жыць сціпла*
*павінны,*
*Быць шчырымі, роўнымі з*
*людам,*
*Пра душы, пра добрае дбаць*
*штохвіліны*
*І быць у паводзінах цудам;*

то матыў другой балады — наскрозь сацыяльны пафас, боль за прыгнечаны бедны бяспраўны люд:

*Нястача навокал. І пуста і гола.*
*Схуднелыя волікі ён запрагае,*
*За пояс — сякеру. Так*
*роспач ды голад*
*Вядуць яго ўночы па дрэва да*
*гаю.*

*Прыбілі дзяўчыну, дахаты па*
*волі*
*Пайшла, ну а дома скруціла*
*нябогу —*
*Памерла ад голаду, сораму,*
*болю,*
*Адпомсціць за ўсё даручаючы*
*богу.*

Па гэтым сацыяльна-грамадзянскім кірунку пойдзе далейшае развіццё жанру потым у Ф. Багушэвіча.

Цікава назіраць за творчасцю Я. Чачота, як узнікае, набірае моц баладны жанр, для якога характэрны ў асноўным аўтарскі погляд "збоку" — драматычна завостраны і адначасова аб'ектывізавана адцягнены, а чытач мае права вольнага выбару: прыняць ці не прыняць твор. Але паступова, па меры таго, як легендарна-фантастычныя сюжэты набліжаюцца да рэчаіснасці, эпіка спалучаецца з элементамі лірыкі, расце драматычная напружанасць, меншае памер балады і колькасць радкоў у баладнай страфе. Адбываецца пераўтварэнне народнага сюжэта-здарэння ў баладны сімвал, што і складае аснову паэтыкі літаратурнай балады.

І як вяршыня баладнай творчасці Чачота — яго "Узногі". Пра гэты твор можна сказаць словамі Бялінскага: "У ім галоўнае не падзея, а адчуванне, якое яна ўзбуджае, думка, на якую яна наводзіць чытача".

А гэта ўжо адзнака дасканалай балады — адзнака высокай ступені развітасці жанру і філіграннасці майстэрства пісьменніка.

Як бачым, беларуская балада як жанр недзе ўжо ў 30 — 50-я гады вызначыла шлях свайго развіцця. І ўзорам гэтага жанру, як нам уяўляецца, трэба лічыць балады Чачота, у якіх ужо намеціліся асноўныя рысы гэтага жанру. Але паэт у баладным жанры моцна яшчэ трымаецца шырока разгорнутай падзейнасці. Апошняе родніць яго баладныя творы з эпіка-гераічнай паэмай.

Праўда, яшчэ і пазней у В. Дуніна-Марцінкевіча знойдзем мы ўзоры баладнага эпасу з неперададоленым элементам бытавой дэталізацыі і храналагічнай падзейнасці.

Але важнейшым структурным элементам балады з'яўляецца сціслaсць, лапідарнасць яе формы. Сюжэт яе падобны на скручаную спружыну, зацiснутую паміж завязкай і развязкай.

І ў творчасці Ул. Сыракомлі балада ўжо абасабляецца з рэчышча буйных формаў эпасу, усталёўваецца ў спецыфічна баладным жанры, набывае яскравыя рысы лірызму і драматызму.

Паглыбіўшыся ў сацыяльны бок рэчаіснасці, беларуская балада дасягнула сваёй ідэйна-мастацкай сталасці ў творчасці Ф. Багушэвіча.

Такім чынам, на працягу XIX стагоддзя беларуская балада ў неспрыяльных умовах літаратурнага развіцця ў асноўным намацала жанравы касцяк, вызначылася ў галоўных напрамках свайго развіцця.

* *Мархель У. І. Рамантычны фальклярызм паэтаў-філаматаў. — Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук, 1984, № 4, с. 93.*

# СЦЯПЯНКА?

*Жывое слова*

На ўсходзе нашай сталіцы ёсць чыгуначны прыстанак з такою назваю. Па-расійску гэтая назва гучыць і пішацца як Степянка. Уражанне такое, нібыта згаданая назва ўтварылася ад слова "стэп". Але скуль стэп? Паблізу ніколі і нідзе не было ніякага стэпу. Тут скрозь адны пагоркі, балацянкі, лясы, пералескі. То скуль жа ўзялася Сцяпянка?.. Стэпянка?

Расказваюць, нібыта яшчэ за Кацярынай Другой у гэтыя мясціны прыехаў нейкі немец-каланіст. Ці то яго надзялілі тут зямлёй, ці то ён сам яе купіў, пачаў абжывацца. Спытаўся ў сялянаў, як завецца тутэйшая мясціна. Яму сказалі: "Сляпянка!"

— О! Гут, гут! — сказаў ён. — Стэпянка! — паўтарыў па-свойму назву з цвёрдым "т", якое характэрна для нямецкай мовы. Немец-каланіст як чалавек практычны, каб не забыцца, тут жа напісаў назву на дошчачцы, прымацаваў яе да слупа. Гэтак на ўсходзе Менска з'явілася сярод лясных пагоркаў і балацянак, як гавораць народнае паданне, селішча з назваю Сцяпянка — Степянка. Ну, але Бог з ім, з тым немцам-каланістам. Яму гэтак пачулася наша назва Сляпянка, пачулася на нямецкі лад ці бліжэй да нямецкага гучання. Яго ніхто не папраўляў. Так і замацавалася побач з Ваньковічавай Сляпянкай яшчэ і Сцяпянка. Здавалася б, больш няма падставаў для новых непаразуменняў. Але пасеяная немцам-каланістам блытаніна мае свой працяг. Выключна гэтымі днямі на колішніх Ваньковічавых землях распачатае будаўніцтва новага ў Менску мікрараёна. І якая, думаеце, яму вызначаная назва? "Большая Степянка" — у нашай транскрыпцыі — "Вялікая Сцяпянка". Але ж землі, на якіх распачынаюць будаўніцтва мікрараёна, належалі Сляпянцы, Малой Сляпянцы, Ваньковічам. З будаўнічай пляцоўкі мікрараёна добра відаць і ацалелая сядзіба Ваньковічаў з колішняй іхняй двухпавярховай мураванкай. То чаму новы мікрараён павінен замацоўваць назву не спрадвечную на гэтай зямлі, і не блізкую, а больш аддаленую.

Мо назва Сляпянка некаму падалася немілагучнай? Але ж такую назву — Слепня — мела і мае пачулка, цяпер канал, на беразе якога распачата будоўля. Тысячы гадоў назва Сляпянка задавальняла нашых продкаў. Але вось настаў час і новыя людзі, прышлыя ці недасведчаныя, засумняваліся ў яе мілагучнасці, у яе прыстойнасці. Ці гэта можа ўсё той жа выпадак, што з немцам-каланізатарам, які, не зразумеўшы толкам, што яму казалі, замацаваў нічым не абгрунтаваную на гэтай зямлі назву. Калі гэта так, то нагадваю, што мясціна, на якой пачалі будаваць новы мікрараён, належала колісь Ваньковічам і называлася Слепянка.

Ва ўсякім разе не "Большая Степянка". Гэта адназначна. Тут і ў архівах асабліва не трэба калупацца. Варта разгарнуць любую беларускую энцыклапедыю і там прачытаем, што Сляпянка — гэта сядзіба мастака Валента Ваньковіча. Такую ж назву мела і аднайменная вёска. Была Сляпянка Малая і Вялікая. То прычым тут "Большая Степянка"? Назвы "Большая Степянка" да студзеня 1997 г., да пачатку будоўлі, на карце Беларусі, наколькі я дасведчаны, ніколі-ніколі не было.

На колішніх сляпянскіх землях жыву з 1977 года. Я яшчэ прысцеў на свае вочы ўбачыць сляпянскі канал з каскадам перасохлых сажалак, з крынічкамі пры драўляным мастку, з высокімі, уздоўж яго, абапал яго, берагамі — дарогай. Высокая насыпная дарога ад канала была і праз усю тую пляцоўку, на якой зараз распачатая будоўля. Той дарогаю ў любую пару года можна было без прыгодаў даехаць да сядзібы ці выехаць з сядзібы на стары Барысаўскі тракт, а адтуль хоць куды. Усё гэта належала сляпянскаму двару. А вось сёння даведаўся, што на колішніх сляпянскіх землях будзе мікрагорад "Большая Степянка"...

Але ж існуюць міжнародныя тапанімічныя правілы, законы. Паводле іх за новабудоўлямі павінна замацоўвацца назва мясціны, на якой распачынаецца будоўля. Але на Беларусі, як бачым, гэтых правілаў не вельмі трымаюцца... Таму ў Менску ёсць і Севастопальскі парк, і парк Чалюскінцаў. Паміж іншым пачатковая назва парка Чалюскінцаў — Ванковічаў Лес. Але гэта ў Парыжы можа быць Булонскі Лес. А на Беларусі абавязкова трэба нейк усё ж перакруціць шыварат-навыварат, толькі тады будзе нармальна.

Памылковасць назвы Сцяпянка прызнаваў і тапаніміст В. Жукевіч. У сваім "Кратком топонимическом словаре Белоруссии", 1974 года выдання, ён напісаў: "Степянка (Сцяпянка) ж.д.ст. и пос. в пригороде Минска. Ошибочно форма от названия Слепянка. См. Слепянка (Сляпянка). Назвы Сляпянка, Слепня, вельмі даўнія, як і Камароўка. У гістарычных актах 1599 года пра Слепню, прыкладам, маем такі запіс: "...за Слепнею по гостинцу, который к городищу идёт..."

Пра ўсё гэта тут расказана не толькі дзеля спазнання гісторыі назваў Сляпянка і Сцяпянка. Можа яшчэ не позна з гэтай нагоды ўдакладніць назву новага мікрагорада, які будуецца не на Сцяпянскіх, а на Сляпянскіх землях. Заадно нагадваю, што Валента Ваньковіч з Сляпянкі — славуты мастак, сучаснік і сябра Пушкіна і Міцкевіча. Пушкін і Міцкевіч таксама праз Ваньковічаў ведалі назву Сляпянка, а не Сцяпянка.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

*Філалагічныя загадкі*

# Крывыя вечары

Тэрмін "крывы" належыць да беларускага народнага календара, у якім сканцэнтравана шмат архаічных дахрысціянскіх элементаў народнага светапогляду, міфалогіі, звычаёвасці. На язычніцкую аснову грунтоўна наклаўся хрысціянскі пласт уяўленняў, але аснова, прыхаваная і як бы прыцярушаная пяском забыцця ў грунце рэчы, засталася досыць моцнай. Агульнавядома, што вечары ад пачатку Каляд да Вадохрышча былі асаблівымі: забаранялася што-небудзь рабіць па гаспадарцы, акрамя як накарміць і напаіць жывёлу, інакш маглі быць розныя гаспадарчыя непрыемнасці, калецтва маладняку свойскай жывёлы, недарод. Вечары называліся "святымі" або "крывымі", што адзначалі этнографы — А. Багдановіч, А. Кіркор, Ф. Сяліцкі ды іншыя. Добра задакументаваны матэрыял сабрала ў нашыя дні на Палессі С. М. Талстая, з якога вынікае, што, акрамя калядных "крывых вечароў", было шмат вылучаных дзён, якія называліся "крывымі" з адпаведнымі забаронамі на пэўныя віды работы, сваімі абрадамі, сваёй функцыянальнай накіраванасцю. Былі, напрыклад, "крывыя нядзелі" (аж тры); "крывая серада" — серада перад Сёмухай ці пасля яе; "крывы чацвер" — чацвер пасля Сёмухі ці на масленым тыдні. Варта дадаць да гэтага, што на Мядзельшчыне ў пачатку нашага стагоддзя ўшаноўваўся "крывы панядзелак" — першы пасля Запустаў. Можа, "крывымі" называліся і іншыя дні тыдня, бо не ўсё тут вывучана, занатавана. "Крывыя" дні і тыдні мелі шмат іншых тлумачальных назваў, акрамя згаданай — "Святыя". Напрыклад, Масленіца — пачатак Масленага, Сырнага, Пустога, Развітальнага, **Крывога** тыдня (Гл. "Беларускі народны каляндар", укл. Алесь Лозка, Мн., 1993). Адпаведная варыянтнасць назіраецца ў назвах Дзядоў — абрадаў ушанавання продкаў, адной з самых моцных праяў язычніцтва ў сучасным жыцці беларуса. У тым самым календары, складзеным Алесем Лозкам, Масленыя Дзяды маюць яшчэ і назвы Поставых, Мясаедных, Зімовых, Стрэчанскіх, былі "дзядавыя суботы" і "дзядавыя пятніцы".

Відаць, тэрмін "крывыя" — найбольш блізкі да тэрміна "Святыя" — назва сакральна вылучаных дзён ці нават часткі сутак у даўнім календары. Дадатковыя назвы ўдакладняюць сутнасць такога "крывога" дня, альбо лепей сказаць свята ці прысвятка. Так, "крывая серада" на Русальным тыдні называлася яшчэ і Градовая серада, Градабой. "Крывы чацвер" пасля Сёмухі меў назву "Наўскі чацвер", Наўская Сёмуха (г. зн. Тройца нябожчыкаў). Тады памінаглі продкаў на могілках, спраўлялі "дзяды". У першым выпадку (серада) свята звязвалася з пашыраным культам Перуна, у другім — з культам продкаў. Паходжанне тэрміна "крывыя" з такой сэнсавай напоўненасцю, відаць, абумоўлена значэннем культавай ролі вярхоўнага язычніцкага святара **Крыва** (Крыва-Крывейта), пра якога пісалі даследнікі XIX ст., увасобленнем племяннога культу крывічоў-беларусаў. Як "дзявочыя" горкі трэба разумець як "божыя" (старажытная дзева — бог), так і "крывыя" ў абмяркоўваемым кантэксце трэба разумець, як "святыя" "сакральныя", а не як "няпростыя".

**Лія САЛАВЕЙ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

*Чытацкі дзённік*

# "Роднае слова" пашырае дыяпазон

Заснаваны ў 1988 годзе часопіс "Беларуская мова і літаратура ў школе" (цяпер — "Роднае слова") адразу зацікавіў настаўнікаў гэтых дысцыплінаў.

Сёння "Роднае слова" (назва сведчыць пра філалагічны накірунак выдання) выглядае хутчэй як культуралагічны часопіс. Такое ўражанне стварае шэраг артыкулаў на тэмы архітэктуры, музыкі і ўвогуле культуры, Прыкладам, можна назваць публікацыі В. Скарабагатава (некаторыя — супольна з У. Мархелем), пачынаючы з № 9 1995 года пад рубрыкай "Анталогія беларускага раманса", матэрыялаў, прысвечаных гісторыі беларускай музыкі. Тут друкуюцца і самі творы. Праўда, той, хто захоча паглыбіцца ў гэтую тэматыку, пачаць вывучаць мелодыі, павінен ведаць нотнае пісьмо. Падобныя публікацыі спрыяюць інтэлектуальнаму развіццю настаўніка. Але тут паўстае пытанне: а якое дачыненне той ці іншы матэрыял, прысвечаны гісторыі культуры Беларусі, мае непасрэдна да беларускай літаратуры ці да роднага слова? Калі аўтар публікацыі зможа правесці паралель між сваёй тэмай і літаратурай, дык гэта сапраўды дае магчымасць школьнаму настаўніку выкарыстаць матэрыял на лекцыі па названай дысцыпліне. Прыкладам, можна скарыстаць такія матэрыялы: В. Скарабагатаў — **"Дзе той век бурлівы?.." Паэзія філаматаў у музыцы Станіслава Манюшкі** ("Р. С.", 1996, № 11); У. Мархель, В. Скарабагатаў **"З хатняга спеўніка", Станіслаў Манюшка і Ян Чачот** ("Р.С.", 1996, № 12).

У апошнім леташнім нумары змешчаны артыкул Н. Янкоўскай пра М. Равенскага, дзе згадваюцца літаратурныя творы, якія кампазітар паклаў на музыку. Праўда, варта было б згадаць і пра іх моўныя, лексічныя асаблівасці.

У юбілейным сотым леташнім нумары часопіса кандыдат філалагічных навук Т. Шамякіна пісала: "Часопіс "Роднае слова" для многіх настаўнікаў: навукоўцаў, студэнтаў — другі універсітэт... Рэдакцыя часопіса паступова, але няўхільна рыхтуе настаўнікаў да новай парадыгмы навучання... ("Р. С.", 1996, № 4, с. 138). Сказана слушна. Сама Т. Шамякіна апублікавала цікавыя артыкулы на культуралагічную тэматыку. Праўда, усё ж застаецца пытанне — у якой меры і як даваць у спецыялізаваным моўным часопісе матэрыялы, у якіх гаворка вядзецца пра важныя ўвогуле для культурнага развіцця рэчы, але не пра роднае слова? Праўда, па ўсім адчуваецца, што ў часопісе працуюць дасведчаныя і спрактыкаваныя журналісты, якія здольныя адчуваць мяжу магчымасцяў гэтага неардынарнага выдання.

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**

## Sport-Спорт

### Наперадзе алімпійскі Сіднэй

Ужо зараз вядучыя спартсмены свету не толькі прыглядаюцца, але і пачынаюць актыўна рыхтавацца да Алімпійскіх гульняў, якія адбудуцца, як вядома, у аўстралійскім горадзе Сіднэй. Некалі з сусветных Алімпіяд абавязкова прывозілі колькі медалёў і беларускія цяжкаатлеты. Што "свеціць" нашым зараз, калі парушаная былая сістэма падрыхтоўкі і не хапае сродкаў на самае істотнае? З такім пытаннем вядомы спартыўны каментатар Аляксандр Асіпенка звярнуўся да гонару беларусаў, заслужанага майстра спорту па цяжкай атлетыцы, алімпійскага чэмпіёна Манрэаля, уладальніка 13 сусветных і 15 усесаюзных рэкордаў Валерыя Шарыя (нарадзіўся ў г. Чэрвень). "Сярод беларускіх штангістаў, — адказаў славуты асілак, — пакуль я бачу толькі аднаго рэальнага прэтэндэнта на медаль. Гэта Уладзімір Емяльянаў з Наваполацка, які ў Атланце ў вагавай катэгорыі 108 кілаграмаў заняў чацвёртае месца. Яшчэ не вечар, — заўважыў Валерый Шарый, — таленавітыя хлопцы ў нас ёсць. А раптам нехта з іх "стрэліць" у Аўстраліі? Але для гэтага маладым трэба працаваць ды працаваць"...

### Вызначыўся Алег Рыжанкоў

У часе спаборніцтваў на Кубак свету па біятлоне ў Японіі беларускія спартсмены выглядалі не самым лепшым чынам. Сярод мужчын вызначыўся, праўда, Алег Рыжанкоў. Пасля трох узнагарод у Осрблі ён здолеў дадаць да сваёй калекцыі яшчэ і "бронзу" ў Японіі пасля снайперскіх стрэлаў на чатырох рубяжах і цяжкай 20-кіламетровай лыжнай гонкі. Усяго на 11 секунд ён адстаў ад фіна Хіеталахці, які выбег перад ім. Вельмі добрыя вынікі паказвалі германскія біятланісты.

### Самба на прызы Прэзідэнта

У Менску завяршыліся спаборніцтвы на адкрытым чэмпіянаце па самаабароне без зброі (самба) на прызы Прэзідэнта Беларусі. У іх бралі ўдзел каля 200 спартсменаў, у тым ліку з суседніх з намі краінаў. Сярод жанчын у сваіх вагавых катэгорыях сталі пераможцамі Святлана Селіханава, Наталля Масквіна, Галіна Савінкава (усе — Менск) і спартсменка з Оршы Таццяна Барылава. У мужчын не было роўных Аляксандру Петуху і Дзмітрыю Новіку (абодва з каманды акадэміі МУС). Здзівіў гледачоў і трэнераў сваім майстэрствам 17-гадовы Юры Рыбак. За чэмпіёнскі тытул яму давялося змагацца з адным з мацнейшых барцоў, удзельнікам сусветнай Алімпіяды ў Атланце Леанідам Свірыдам. Гледачы падтрымлівалі авацыямі ветэрана. Але перамогу атрымаў усё ж маладзейшы — Юры Рыбак.

### У шахматах мацнейшы Герман Качаткоў

Завяршыўся чэмпіянат Беларусі па гульні мудрых — шахматах. Перамогу тут сёлета атрымаў міжнародны майстар з Бабруйска Герман Качаткоў. Другое месца заняў Андрэй Кавалёў з Віцебска. Трэцяе — Пётр Карзубаў з Магілёва. Сярод менскіх шахматыстаў лепшым быў Вячаслаў Дыдышка.

### Залаты медаль з Варшавы

На чэмпіянаце свету па кулявой стральбе ў Варшаве вызначылася зборная каманда юніёраў Беларусі. У стральбе па рухомай мішэні нашы Ларыса Панкавец, Ірына Мацкевіч і Святлана Клішчанкава заваявалі камандны залаты медаль.

Падрыхтаваў У. ВЕРАБЕЙЧЫК.

## Гіт Кіна-відэа-аўдыё-шоў-навіны Гіт

### Зоркі ззяюць над краінай, што шануе іх

У адной з публікацый "Гіта" ў мінулым годзе мы, прадстаўляючы



адну з навінак польскай фанаграфіі, закранулі шэраг новых для нашых чытачоў іменаў артыстаў ды назваў фанаграфічных прадпрыемстваў. Шквал лістоў з розных куткоў Беларусі паказаў, што зерне ўпала на ўрадлівую глебу і... Мы вырашылі працягнуць тэму.

Асаблівую актыўнасць у Польшчы дэманструе фірма "Zic Zac", імя якой — цалкам чорная пляма для філафаністаў часоў ПНР і нават для калекцыянераў, што з'явіліся пад час "салідарніцкага" рок-выбуху. Тым не менш у рэестрах актываў "Zic Zaca" — не толькі таленавітая моладзь, але і супер-зоркі апошніх гадоў. Альбом "Эльф" гурта "Varius Manx", напрыклад, ("Zic Zac", 1995) паспеў нават стаць набыткам гісторыі, бо пасля суда вакалісткі Аніты Ліпніцкай з калектывам песні адтуль не маюць права паасобку выконваць ні "Varius...", ні Аніта (рарытэтны альбом на здымку ўверсе).

А вось дыскі Эдыты Гурняк, Юстыны Стэчкоўскай ды іншых нуворышаў польскага шоў-бізнесу выдае прэстыжная (хоць і таксама адносна новая) Kompania muzyczna "Pomaton-EMi", спонсарам якой з'яўляюцца славуты паўднёвакарэйскі канцэрн "Gold Star" і менш вядомая фірма "Orca ltd". Някепска, відаць, пачуваюцца тыя нуворышы ў каталогах фірмы побач з легендарнай прадукцыяй зорак кшталту "Maanam"?

Зрэшты, на "Маанаме" кормяцца ўсе — і "Pomaton", і "Inter Sonus"... А вось новых зорак адкрываць, відаць, навічкам, каб разам з імі ісці да новых поспехаў.

Нешта падобнае ўдалося і кракаўскай фірме "MJM", калі яна звярнула ўвагу на творчыя праекты спявачкі Рэнаты Пшэмык. І няхай не бянтэжыць вас назва ейнага апошняга альбома — "Мала здольная шансаньетка" (фота ўнізе). Гэта па-сапраўднаму нечуваны раней сімбіёз рок-музыкі, кабарэ і фальклора. Разам з вакалісткай працуе гурт у складзе акардэаніста Я.Муса, бубнача П.Круліка, саксафаніста З.Гондэка, кантрабасіста Т.Купеца. Прад'юсуе гэты калектыў ды піша ім тэксты А.Саранецкая. Усе імёны, як бачым, невядомыя, але шмат пра што гаворыць такі факт: студыйны гук ім ставілі Алек Галас, Яцэк Мастыкаж, Пётр Бжэзінскі — сааўтары поспеху легендарных цяпер гуртоў "TSA", "Maanam", "KAT", Ізабэлы Траяноўскай. Дарэчы, усе гэтыя музычныя навінкі на працягу мінулага года былі прызамі конкурсаў Беларускай рэдакцыі Польскага радыё.




### "Пінк Флойд" па-японску і па-беларуску

Многія з нашых чытачоў, бадай, добра памятаюць савецкі час, калі да нацыянальных моваў ставіліся




ледзь не як да перажыткаў цёмнага мінулага, а ў спаборнічанні навыперадкі да інтэрнацыяналізму нашыя ўсходнія суседзі закідвалі нашыя музычныя крамы "імпартам" кшталту "Vesolye rebiata", "Krasnye maki" ды інш. Ёсць, праўда, вялікія сумненні і ў тым, што была ў гэтым павага да нашых традыцый, і ў тым, што нам намагаліся данесці сваю культуру.

А як жа з гэтым (маем на ўвазе культурны абмен) у народаў, якія цяпер прынята называць цывілізаванымі?

Неяк аўтару гэтых радкоў пашчасціла набыць арыгінальны CD "Pink Floyd" — "Another brick in the wall" (гл. фота). Натуральна, у дыскаграфіі славутага брытанскага калектыву вы не знойдзеце ніякага "Іншага спосабу муравання" (так перакладаецца на нашу мову назва праграмы). Папросту гэтую назву дала падборцы найвыбітнейшых гітаў калектыву, запісаных на канцэртах, японская фірма "Golden Dragon Records" (GDR, 1988).

І хоць мы, беларусы, з веданнем замежных моваў у рамках школьнай праграмы, вымушаныя карыстацца такім выданнем з пэўнымі абмежаваннямі (нам ніколі не прачытаць, з якой нагоды створаная тая або іншая кампазіцыя, чаму прысвечана пэўнаму чалавеку і хто ён такі, нават назвы твораў мы часам перакладаем кожны па-свойму), а іншага выбару беларусам ніхто і не дае, дык японец з самай глухой вёскі выспы Хакайда без цяжкасцяў разбярэцца, хто такі гэты "Pink Floyd", адкуль ён, што хоча данесці яму — японцу. Пра гэта расказа паўнавартасны маляўнічы буклет, напісаны, зразумела, на японскай мове. Дый на звароце гэтага буклета (гл. другі здымак) усе назвы супер-гітаў, імёны выканаўцаў і дадатковыя звесткі дублююцца і на мове арыгінала, і па-японску.

У свеце пануе ідэал узаемаразумення, які дыктуе і першасны крытэрый кантактаў — разумець. Беларуса, які і сам сваёй мовы не надта разумее, ігнаруюць і бліжэйшыя суседзі, і сусветныя гіганты, таму ён выключаны з агульнага працэсу ўзаемаабагачэння. І чужую, і сваю культуру мы, не здолеўшы разумець, можам толькі спажываць, не адчуваючы асаблівай карысці.

### Ванэса Мэй — жыўцом для беларусаў

Пра тое, што сусветны шоўбізнес глядзіць на Беларусь, як на правінцыйны адстойнік пратухлых зорак, мы ўжо пісалі. Але, каб разагнаць песімізм нашых чытачоў, дадамо: нельга ж забываць, што этнічная мапа беларусаў разлягаецца не толькі па тэрыторыі ССР і СНГ, але і Польшчы. І ёсць там беларускія газеты, беларускія радыёпраграмы. Дык вось экстраардынарную навіну сусветнага шоўбізнесу данесла да нас беларуская радыёперадача з Варшавы: "З канцэртамі ў Варшаўскай кангрэсавай зале выступіла напачатку гэтай зімы вядомая скрыпачка 18-гадовая Ванэса Мэй. Артыстка прадставіла публічнасці творы з найноўшай сваёй кружэлкі "The Classical Album". Народжаная ў Сінгапуры, напалову кітаянка, напалову тайландка, яна распачала музычную адукацыю ва ўзросце трох гадоў, а ва ўзросце пяці -- ужо грала на скрыпцы. Калі мела дзесяць гадоў, выканала свой канцэрт з Лонданскім філарманічным аркестрам. Ейны дэбютны поп-альбом "The Violin Player" (1994) купіла больш за 2 000 000 асобаў на цэлым свеце".

Як бачым, хоць бы частка беларусаў можа слухаць жыўцом




сёння не толькі супер-гіты ўчарашняга дня. Больш таго, Ванэса Мэй — гэта супер-зорка дня заўтрашняга, бо ейная кар'ера толькі пачынаецца.

Мяркуем, з 300 000 этнічных беларусаў Польшчы нямала знайшлося тымі днямі ў Варшаўскай кангрэсавай зале, каб асабіста адчуць неверагодны сімбіёз класікі з зухаватымі рытмамі поп-музыкі ў інтэрпрэтацыі суперновы з Сінгапура, а нам, якія належаць да 10 мільёнаў нацыянальных самагубцаў, застаецца слухаць пірацкую копію CD "The Vio- lin Player" (на здымку), нават не спадзеючыся папоўніць двухмільённую армію прыхільнікаў чароўнай азіяткі — нас папросту няма ў рэестрах: ні як народа, ні як арміі спажыўцоў. Такія вынікі рэферэндуму.

Вітаўт МАРТЫНЕНКА.

## І смех і грэх

### Пачутае "У Лявона"

#### Трамвай

Маці вярнулася з Менску і апавядае, як яна ехала трамваем. Сынок пытаецца ў яе:

— Мама, што такое трамвай?

— Гэта аўтобус, але ён імчыць па рэйках і такі забіты людзьмі, што нават мужчыны не могуць сесці, а едуць стоячы.

#### Няма патрэбы

Малады муж пытаецца ў вопытнага калегі:

— Ці я мушу расказваць жонцы пра ўсе свае думкі і чыны?

— Няма патрэбы. Неўзабаве жонка і без гэтага будзе адгадваць твае думкі, а што ты робіш і дзе — ёй паведамяць сяброўкі.

#### Не думаў

— Калі мы яшчэ не пажаніліся, ты казаў, што мой голас ты мог бы слухаць дзень і ноч.

— Але я не думаў, што буду вымушаны.

#### Тэлефон

Размаўляюць сяброўкі:

— Я ўжо Лёлі нічога не расказваю: разнясе па ўсім Менску, як тэлефон.

— Дык тэлефон хоць нічога не дадае ад сябе.

#### Перавага

Лысы мужчына свайму калегу, у якога чупрына:

— А ўсё ж у мяне ў параўнанні з табой ёсць значная перавага: я заўсёды прычасаны!

#### Апраўданне

Шэф свайму падначаленаму:

— Вы ўчора адпрасіліся з працы, каб пайсці да зубнога доктара. Але ж вас бачылі, як вы сноўдаліся па стадыёне "Дынама".

— Усё праўда, я хадзіў туды з сваім стаматолагам.

Запісаў З.С.

## Даты і падзеі ў сакавіку

**14** — 95 гадоў з дня нараджэння (1902) Паўла Малчанава, артыста тэатраў імя Якуба Коласа ды імя Янкі Купалы, народнага артыста СССР.

— 75 гадоў з дня нараджэння (1922) мастака-графіка Анатоля Ткачонка.

— 65 гадоў з дня нараджэння (1932) скульптара Мікалая Рыжанкова.

**15** — Дзень Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

— 135 гадоў з дня нараджэння (1862) Францішка Вярэнькі, краязнаўца, археолага (даследаваў курганы і гарадзішчы ваколіцаў Пуцілкавіч Ушацкага р-на), аўтара навуковай працы пра народную медыцыну Беларусі.

— 45 гадоў таму (1952) Бабруйскі завод гумавых тэхнічных вырабаў выпусціў першую прадукцыю.

**17** — 400 гадоў таму (1597) Віцебск атрымаў магдэбургскае права — права на самакіраванне. Гораду быў прызначаны герб — "в блокитном поле образ Святого Спаса Збавицеля нашего, и при том нижей меч голый червоный, што ся мает зараз трохи розуметь кровавый".



— 130 гадоў таму (1867) пачалася "Справа ваенна-судная палітычная" пісца Менскай палаты грамадзянскага суда Васіля Канапацкага, які быў удзельнікам паўстання 1863 года ў атрадзе Антона Трусава.

— 75 гадоў з дня нараджэння (1922) пісьменніка Іллі Клаза.

**18** — 370 гадоў таму кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт III паслаў ліст жыхарам Магілёва і Воршы, каб яны "попов своволных, которые бы не были послушенства отца Антонего Селявы, архиепископа полоцкого, не переховывали и жадного сполкованя з ними не мели..."

— 255 гадоў таму (1742) князь Міхаіл Радзівіл заснаваў фаянсавую мануфактуру ў мястэчку Свержань (каля Стоўбцаў). Там вырабляўся побытавы, аптэчны і літургічны посуд. Асабліва высокім мастацкім узроўнем вызначаліся шэсць фаянсавых алтароў для капліцы ў паднясвіжскай Альбе, летняй рэзідэнцыі Радзівілаў.

**19** — 405 гадоў таму (1592) памерла слуцкая княгіня Кацярына, маці слуцкіх князёў Юрыя, Сымона, Аляксандра, а таксама нясвіжскага князя Крыштафа Радзівіла, вялікага гетмана ВКЛ.

— 110 гадоў таму (1887) памёр Юзаф Ігнат Крашэўскі, сын пружанскага харужага, пісьменнік, аўтар каля 600 гістарычных раманаў, публіцыст, выдавец.

**20** — 230 гадоў таму (1767) была ўтвораная Слуцкая канфедэрацыя пратэстанцкай і праваслаўнай шляхты, якую ўзначальвалі кальвініст граф Грабоўскі і праваслаўны епіскап Георгі Каніскі; створаная была за падтрымкай расійскага пасла ў Рэчы Паспалітай М.В.Рапніна. Кацярына II прыслала ім ды іншым канфедэратам на "дапамогу" 40-тысячную армію.

— 135 гадоў з дня нараджэння (1862) Адама Багдановіча, этнографа і фалькларыста, бацькі Максіма Багдановіча.

— 100 гадоў з дня нараджэння (1897) Мікалая Гікалы, партыйнага і ваеннага дзеяча Беларусі.

— 75 гадоў з дня нараджэння (1927) Хведара Жычкі, паэта, перакладчыка.

Падрыхтаваў З.С.

Пры передруку спасылка на NS абавязковая

Наша Слова (11)

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Індэкс 63865. Замова 415 Наклад 2310 паасобнікаў.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана ў друк 12.03.1997 г. у 15 гадзін.